# СВАБОДА

№41 1 — 7 лістапада 1994 г. Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

Наклад 50 000

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56

Тэл. 36-24-41


## М.Грыб зьбіраецца ў Амэрыку

**14 лістапада Мечыслаў Грыб зьбіраецца паехаць у ЗША.**

Мэта паездкі — удзел у міжнароднай канфэрэнцыі. Аднак там, паводле нашых зьвестак, зьбіраюцца зусім ня лідары парлямантаў, а людзі меншага рангу. «Відаць, спадару Грыбу папросту заманілася наведаць Амэрыку, і ён плявацы хацеў на пратакол і прэстыж краіны», — сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ адзін супрацоўнік беларускага МЗС.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

## Якабсон будзе віцэ-прэм'ерам?

**У хуткім часе ў нас можа зьявіцца яшчэ адзін віцэ-прэм'ер.**

Дасьведчаныя людзі назвалі карэспандэнту СВАБОДЫ нават прозьвішча кандыдата на гэтую пасаду — Аляксандар Якабсон, старшыня Сьветлагорскага гарвыканкаму, дэпутат ВС.

М.Г.

## Страйк на авіябазе

### Упершыню забаставалі вайскоўцы

**24 кастрычніка на вайсковай авіябазе «Пружаны-заходнія» (Пружанскі раён) забаставалі лётчыкі.**

Тут пастаянна затрымлівалі выдачу заработнай платы, што і вымусіла авіятараў абвясьціць страйк. На наступны дзень зь Менску тэрмінова прыляцеў нам. камандуючага Ваенна-паветранымі сіламі генэрал-маёр Васіленка, які паабяцаў: «Сёньня ж грошы будуць пералічаныя, і заўтра вы іх атрымаеце».

Як даведаўся карэспандэнт СВАБОДЫ, 26 кастрычніка а 16-й гадзіне на авіябазе сапраўды пачалі выдаваць зарплату. Дарэчы, атрымліваюць лётчыкі нябагата — па 130—150 тыс. рублёў у месяц. А калі ўлічыць, што іхныя жонкі нічога не зарабляюць (бо папросту няма працы), то на сям'ю гэта зусім няшмат. Аднак і гэтыя грошы атрымаць, як бачым, няпроста.

Іван СІДАР

## У Салігорску хочуць загнаць усіх на стадыён

**5 лістапада ў Салігорску Незалежны прафсаюз праводзіць шэсьце і мітынг у знак салідарнасьці з работнікамі народнага прадпрыемства «Калінка», якія працягваюць галадоўку.**

Тым часам улады Салігорска прынялі рашэньне забараніць правядзеньне на цэнтральным пляцы, вуліцах горада, а таксама каля будынкаў прадпрыемстваў шэсьцяў, мітынгаў ды іншых акцыяў пратэсту. Улады дазваляюць рабіць гэта толькі на стадыёне «Будаўнік». Міліцыі далі ўказаньне не дапускаць правядзеньня несанкцыяваных акцыяў.

Каб не дапусьціць сутычак зь міліцыяй, арганізатары мітынгу вырашылі сфармаваць уласную ахоўную дружыну.

Ірына ЛЕЎШЫНА

## П'яны міліцыянт застрэліў амонаўца і двух чалавек параніў

**Міліцэйскія стрэлы, што прагучалі ў ноч на 27 кастрычніка ў Менску на Рабкораўскім завулку, пакуль не атрымалі ў прэсе належнага рэзанансу. А яны таго вартыя.**

Здарэньне мела трагічныя вынікі. Двое нецьвярозых міліцыянтаў (опэрупаўнаважаныя крымінальнага вышуку Кастрычніцкага РАУС) не падзялілі дзяўчат з байцамі АМОНу і пачалі разборку. П'яны міліцыянт выхапіў пісталет і распачаў страляніну. Ён зрабіў 6 стрэлаў: забіў аднаго амонаўца, параніў ягонага брата, а таксама падстрэліў свайго калегу.

Пракуратура Кастрычніцкага раёну, якая вядзе сьледзтва, не паведамляе ніякіх падрабязнасьцяў. Зрэшты, сьледчых можна зразумець. Але ж як зразумець, што Міністэрства ўнутраных справаў імкнецца схаваць ад грамадзкасьці гэтае здарэньне? У МУС склалася заганная практыка ўтойваць «нявыгадную» інфармацыю, як гэта было, напрыклад, калі картэж М.Грыба зьбіў чалавека на дарозе. У міністэрстве рыхтуюцца дзьве зводкі здарэньняў: адна для прэсы, другая — для начальства. Для прэсы паведамляюць нават дробязі (напрыклад, як у вёсцы Печкі пабілія мужык з жонкаю), а тымчасам інфармацыя пра больш сур'ёзныя выпадкі застаецца недаступнаю для журналістаў.

Іван СІДАР

## Давер прэзыдэнту зьніжаецца

На замову «Брестского курьера» сацыялягічная група «Шчырасьць» катэдры паліталёгіі, сацыялёгіі і права Берасьцейскага пэдагагічнага інстытута правяла апытаньне, вынікі якога былі апублікаваныя ў газэце.

**Апытаньне датычыла стаўленьня да дзеяньняў Аляксандра Лукашэнкі за 100 дзён прэзыдэнцтва. Выявілася, у прыватнасьці, што 17% апытаных берасьцейцаў, якія ўлетку галасавалі за Лукашэнку, перасталі яму давяраць і яшчэ 13-ці працэнтам было цяжка адказаць на пытаньне, у якой ступені яны давяраюць прэзыдэнту на сёньняшні дзень.**

СІМ

## Казімеж Сьвёнтак цяпер кардынал

30 кастрычніка Папа Рымскі Ян Павал II надаў тытул кардынала 30-ці каталіцкім сьвятарам.

Сярод іх — арцыбіскуп Менскі і Магілёўскі Казімеж Сьвёнтак. У каталіцкай царкве цяпер стала 120 кардыналаў.

Ул.ЦАПАЯ

## Дзяды ў Менску

**2 лістапада ў Менску БНФ ладзіць шэраг акцыяў, прысьвечаных Дзядам.**

Аб 11-й гадзіне каля будынку Міністэрства ўнутраных справаў будзе ўстаноўленая сымбалічная каплічка — на памяць пра замардаваных камуністычным рэжымам. Ад 13-й да 15-й гадзіны ў Курапатах адбудзецца мітынг. Аб 18-й гадзіне ў кінатэатры «Зьмена» пачнецца дэманстрацыя дакумэнтальнага фільма «Курапаты — дарога сьмерці», перад пачаткам якой выступіць Зянон Пазьняк.

М.Г.

## У Валожыне апазыцыя падзялілася

**Мінулую суботу і нядзелю дэпутаты Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк, Лявон Баршчэўскі і Сяргей Папкоў правялі ў паездцы па Валожынскім раёне.**

З.Пазьняк сустрэўся з выбаршчыкамі ў Валожыне, Івянцы, Ракаве і вёсцы Гародзькі, а ягоныя калегі наведалі іншыя вёскі — Багданава, Вішнева, Пяршаі, Доры.

М.Г.

## Праект дамовы аб плацёжным саюзе з Расеяй неканкрэтны

**Намесьнік старшыні Нацбанку Беларусі Валяньцін Заяш паведаміў, што дамова з Расеяй аб плацёжным саюзе і ўзаемнай канвэртацыі валютаў гатовая да парафаваньня.**

Ён таксама зазначыў, што гэтае пагадненьне больш дэталёвае за шматбаковую дамову аб плацёжным саюзе краінаў СНД. Але ў той жа час сп. Заяш прызнаўся, што беларуска-расейскай дамове не стае канкрэтыкі. У праекце нават не прадугледжаныя максымальна дапушчальныя ваганьні курсаў валютаў адносна адна адной і мэханізм падтрыманьня курсу. «Паводле гэтай дамовы плацёжны саюз застанецца ў плянах», — сказаў В.Заяш.

СІМ

## TV 6 каналаў


Віталь Цыганкоў аналізуе першыя 100 дзён дзейнасьці А.Лукашэнкі *стар. 4*

Сьпіс тэлефонаў адміністрацыі прэзыдэнта *стар. 5*

Трэць польскіх афіцэраў лічаць Беларусь патэнцыйным агрэсарам *стар. 6*

Вайскоўцаў вымушаюць гандляваць мылам *стар. 8*




*Каб чытаць СВАБОДУ ў наступным годзе, паклапаціцца трэба ўжо сёньня.*

*Падпіска на 6 месяцаў 1995 г. каштуе ўсяго 2 400 рублёў.*

*Наш падпісны індэкс — 63887.*

*Не пашкадуйце грошай і выпішыце СВАБОДУ таксама сваім бацькам, сваякам і знаёмым.*

*Для іх гэта будзе прыемная нечаканасьць.*

# Студэнтаў будуць судзіць

**7 лістапада ў судзе Ленінскага раёну Менска пачнецца працэс над трыма арганізатарамі студэнцкай акцыі пратэсту 14 кастрычніка «Дзякуй прэзыдэнту за хлеб і малако».**

Трох студэнтаў БДУ — А.Міхалевіча, А.Новікава і В.Цямушава — улады абвінавачваюць у арганізацыі і правядзеньні несанкцыянаванага маршу. Як вядома, афіцыйным арганізатарам акцыі быў Свабодны прафсаюз студэнтаў БДУ. Ягоны старшыня Ігар Тышкевіч заявіў, што прафсаюз мае намер заклікаць менчукоў прыйсьці 7 лістапада а 16-й гадзіне ў Ленінскі нарсуд на прагляд відэафільма аб падзеях 14 кастрычніка. Фільм прадстаўлены суду МУС і КДБ.

Юрась ДУБІНА
БелаПАН

# Хто мы — гаспадары ці лакеі?

**У Беларусі створаная новая грамадзкая арганізацыя — Беларускі нацыянальны зьвяз «Пасад».**

У яго ўвайшлі Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная партыя, Нацыянальна-дэмакратычная партыя, Саюз беларускай каталіцкай моладзі, Менскі гарадзкі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ. Сваімі мэтамі зьвяз «Пасад» бачыць: захаваньне беларускай зямлі, дзяржавы, мовы, культуры беларускага народа, наданьне прыярытэтнай ролі беларускаму этна-культурнаму працэсу. На сваім першым пасяджэньні арганізатары зьвязу «ПАСАД» прынялі зварот да грамадзянаў Беларусі, у якім у прыватнасьці гаворыцца: «...Хто ёсьць мы на Радзіме цяпер? Гаспадары ці лакеі?.. Няўжо не ўтрымаем на плячах Дзяржаўнасьць нашую?»

Юрый АЛЯКСЕЕЎ
БелаПАН

# Грамада пра 100 дзён

**Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада рэзка нэгатыўна выказалася пра выніку першых ста дзён прэзыдэнцтва А.Лукашэнкі.**

У заяве, якую распаўсюдзіў выканкам Грамады, падкрэсьліваецца, што перадвыбарчыя абяцаньні Лукашэнкі ўтаймаваць інфляцыю, спыніць зьбядненьне насельніцтва, прыцягнуць да адказнасьці карупцыянэраў і інш. напраўдзе сталіся самым звычайным папулізмам, сытуацыя ва ўсіх сфэрах жыцьця значна пагоршылася. Адзінае, у чым прэзыдэнт меў «посьпех» — гэта ў спрыяньні актывізацыі антыбеларускіх сілаў, — адзначаецца ў заяве.

М.Г.

# Абяцанага тры гады чакаць?

**Выканкам Аб'яднанай дэмакратычнай партыі выступіў з заявай «Аб становішчы сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі».**

«Адной з галоўных прыкмет дэмакратычнай дзяржавы зьяўляецца наяўнасьць незалежных сродкаў масавай інфармацыі, — гаворыцца ў заяве. — У гэтым сэнсе палітыка новай прэзыдэнцкай каманды мала адрозьніваецца ад пазыцый мінулага ўрада. ...У краіне, як і раней, захоўваецца манаполія дзяржавы на радыё і тэлебачаньне, найбольш масавыя рэспубліканскія газэты. ...Узмацняецца цэнзура, робіцца ціск на незалежныя газеты». На думку аўтараў заявы, найбольш абуральным фактам, які сьведчыць аб працягу курсу мінулага ўрада ў дачыненьні да СМІ, зьяўляецца забарона дзейнасьці радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». Выканкам АДПБ падкрэсьлівае, што права на атрыманьне незалежнай інфармацыі зьяўляецца адным з неад'емных правоў чалавека, і заклікае прэзыдэнта А.Лукашэнку выканаць сваё перадвыбарнае абяцаньне: усталяваць у краіне свабоду слова.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ

# У гонар Касьцюшкі

**1 лістапада ў Слонімскім драматычным тэатры адбудзецца вечарына з нагоды 200-х угодкаў паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі.**

Імпрэзу ладзіць мясцовая рада БНФ.

В.Я.

# Хто каго цытуе: Лукашэнка Фядуту ці наадварот?

**Аляксандар Фядута прыехаў у Горадню з «сакрэтнай місіяй», пра якую адмовіўся паведаміць на сустрэчы ва ўнівэрсітэце імя Янкі Купалы.**

Заявіўшы прысутным «я вас очень и очень люблю», госьць сказаў, што цяпер ён «един в трех лицах», паколькі, апроч функцыяў прэс-сакратара ды адміністрацыйных, выконвае яшчэ і абавязкі «сьпічрайтара» прэзыдэнта і, адпаведна, нясе сваю частку адказнасьці за ўсё, што публічна гаворыць А.Лукашэнка і што друкуецца за ягоным подпісам.

Спадар прэс-сакратар расказаў таксама пра тое, як ён трапіў у каманду прэзыдэнта. Аднойчы А.Фядута прыйшоў да дэпутата Булахава ("которого знаю как достаточно интеллигентного человека") і прапанаваў свае паслугі: «Я готов в меру своих слабых сил поддержать вашу кандидатуру». Аднак сілы Булахава напэўна былі яшчэ слабейшымі, бо той ужо паставіў сваю карту на Лукашэнку.

Размова на сустрэчы непрыкмет зайшла пра журналістыку. У рэчышчы гэтай тэмы А.Фядута назваў «Знамя юности» «серой» газэтай, СВАБОДУ (удадатак да лукашэнкавых эпітэтаў «бульварная и националистическая») — «желтой». СВАБОДА, паводле ягоных словаў, робіцца па канонах, прынятых ва ўсім сьвеце, але нібыта «не занимается информацией, а работает на сенсацию». (Відаць, сп. прэс-сакратар захапляецца толькі сэнсацыямі і не чытае ў СВАБОДЗЕ інфармацыйных блёкі).

Надта ж адольвалі госьця ўнівэрсытэцкія аматары дзяржаўнага двухмоўя: «Лукашенко обещал два государственных языка. Когда наконец это будет?!» А.Фядута сказаў, што, на ягоную думку, гэта было не зусім слушнае абяцаньне з боку прэзыдэнта. Ён зноў працытаваў Лукашэнку (ці самога сябе?), сказаўшы, што сёньня падобныя патрабаваньні «вольно или невольно усиливают напряжение в обществе и приближают его к состоянию вяло текущей гражданской войны».

Было таксама пытаньне, якое непасрэдна датычыла прысутных, але А.Фядута на яго не адказаў. Студэнтаў цікавіла: як можна пражыць на 3-даляровую стыпэндыю, тымчасам як, да прыкладу, польскае студэнцтва атрымлівае штомесяц 150 даляраў? Але госьць немаведама чаму расказаў пра прэм'ер-міністра, які зарабляе ўсяго 70 даляраў (як прыбіральшчыца ў банку, якім раней кіраваў Чыгір), але, праўда, мае 20 вульляў. Пры гэтым ён мэлянхалічна дадаў: «А у меня нет дачи и пчел, а только я и мама». Ну, ня так усё і кепска ў сп.Фядуты. Як мы даведаліся, ён сабраўся, нарэшце, ажаніцца. А пчолы — не бяды, нажывуцца.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

На здымку: шчасьлівы Аляксандар Фядута

# Прэзыдэнта фатаграфаваць забаронена!

**Як стала вядома рэдакцыі СВАБОДЫ, прэзыдэнцкая прэс-служба імкнецца абмежаваць доступ фотарэпартэраў да А.Лукашэнкі.**

Фатаграфаваць прэзыдэнта дапускаюцца толькі супрацоўнікі падкантрольнага ўрадавага агенцтва Белінфарм. Цэнзура ўведзеная дзеля таго, каб у газэты не траплялі здымкі, на якіх Лукашэнка смокча палец альбо, напрыклад, калупаецца ў носе. У прэс-службе лічаць, што такія фота дыскрэдытуюць прэзыдэнта ў вачах грамадзкасьці.

Аднак наўрад ці гэтая забарона дасьць жаданыя вынікі. Ці не прасьцей было б навучыць прэзыдэнта, як належыць паводзіць сябе на людзях.

С.М.

# Прэзыдэнт, пашкадуй беларускую мову!

**Гарадзенскія настаўнікі пачалі збор подпісаў пад зваротам да прэзыдэнта Лукашэнкі.**

Яны просяць яго падтрымаць працэс беларусізацыі сярэдняй адукацыі, ня даць яму спыніцца. Настаўнікі спадзяюцца, што прэзыдэнт вырашыць па-дзяржаўнаму, ня стане дзеля таннага папулізму ісьці на павадку ў крыкуноў, настроеных непрыхільна да ўсяго беларускага.

С.М.

# У Барысаве цяпер жывуць, як пры камунізме

**Сёньня ў Барысаве кіруюць камуністы.**

Выканаўчая ўлада ў горадзе ды і ў раёне — у руках былых першых сакратароў Барысаўскага гаркаму і райкаму КПБ — таварышаў Капульцэвіча ды Кібэрмана, якія адначасова зьяўляюцца старшынямі гарадзкога і раённага Саветаў. Мабыць, таму і асобныя кіраўнікі мясцовых прадпрыемстваў беражліва захоўваюць камуністычныя лёзунгі. Напрыклад, над цэнтральным корпусам аўтарамонтнага завода зьзяе: "Делу Ленина — жить в веках». І сапраўды, тут жывуць, як пры камунізме: чатыры дні ў тыдзень працуюць, тры — адпачываюць...

Анатоль УЛАДЗІМІРАЎ
БелаПАН

# Свабода прыходзіць у „сьпяцоўках"

**На берасьцейскім заводзе «Цьветатрон» Свабодны прафсаюз аб'ядноўвае цяпер болей за сотню рабочых, а ў пачатку года было толькі 12 чалавек.**

Калі так пойдзе і надалей, то ў хуткім часе Свабодны прафсаюз значна пацесьніць з прадпрыемства «афіцыйны».

К.В.

# Пэнсіянэраў — на пэнсію?

**Навагарадзкі гарвыканкам абмеркаваў выкананьне ў горадзе Закону аб занятасьці.**

Сёлета ўзровень беспрацоўя ў Навагарадку падвысіўся з 1,4% амаль да 3-х працэнтаў. Тымчасам у Гарадзенскай вобласьці агулам яно складае ўсяго 1,8%. Бальшыня навагарадзкіх беспрацоўных — жанчыны зь дзецьмі на ўтрыманьні. Нямала і надаўніх выпускнікоў школаў ды іншых навучальных установаў. Але ж у горадзе працуе 1250 пэнсіянэраў, і некаторым ужо пад, а то і за 70 гадоў. Улады параілі кіраўнікам прадпрыемстваў ды ўстаноў «прааналізаваць мэтазгоднасьць заключэньня працоўных дамоваў з пэнсіянэрамі». У гарвыканкаме таксама лічаць, што цэнтар занятасьці мае магчымасьці рэгуляваць рынак працы ў горадзе, але ня надта да гэтага імкнецца. Усе пагадзіліся, што трэба больш актыўна перападрыхтоўваць гараджан, якія страцілі працу, спрыяць прадпрымальніцтву і малому бізнэсу, а таксама падтрымліваць «самазанятасьць» насельніцтва.

В.ЛЫСЮК

Віталь Цыганкоў

# Сто дзён Лукашэнкі: калі няма дзяржаўнай стратэгіі — ня будзе пэрспэктывы

Віталь Цыганкоў, 25 гадоў, па адукацыі — журналіст. Працаваў у «Знамени юности», сузаснавальнік агенцтва БелаПАН, цяпер працуе ў «Звяздзе». Зьяўляецца таксама карэспандэнтам беларускай службы радыё «Свабода» і амэрыканскага агенцтва Associated Press. Неаднаразова публікаваўся ў газэце СВАБОДА пад рознымі псэўдонімамі, пад сваім прозьвішчам друкуецца ў нас упершыню.



Здаецца, тры месяцы ўлады павінна было б хапіць кіраўніку любой дзяржавы, каб вызначыць асноўныя накірункі стратэгіі разьвіцьця сваёй краіны. Першыя сто дзён прэзыдэнцтва Лукашэнкі не даюць, аднак, адказу на галоўныя пытаньні дзяржаўнага жыцьця: куды мы ідзем і што спрабуем будаваць? Ці, калі больш дакладна, — куды ён ідзе і што ён будуе?

## Не капай другому яму папулізму — сам калі-небудзь туды патрапіш

Беларуская афіцыйная прэса ўжо «адзначыла» сымбалічную дату — сто дзён праўленьня першага прэзыдэнта. Адзначыла, варта прызнацца, у сваім традыцыйным «псэўданародным» стылі — маўляў, насельніцтву лепш жыць ня стала, інфляцыя не ўтаймавалася, цэны растуць, карупцыянэры на свабодзе. Дзіўна, але крытыкі прэзыдэнта напэўна разумеюць, што за тры месяцы з нашай эканомікай пры любым кіраўніку дзяржавы не магло адбыцца сур'ёзных пазытыўных зрухаў.

Зрэшты, Лукашэнка атрымаў тое, што заслужыў: палітычныя праціўнікі будуць змагацца зь ім такімі ж папулісцкімі сродкамі, з дапамогай якіх дырэктар саўгасу заваяваў вышэйшую ўладу. Мне застаецца толькі паўтарыць тое, што пісаў пасьля першага туру выбараў: Лукашэнка перамог дзякуючы ўменьню рэзка апусьціць планку дазволенага ў палітычнай барацьбе, супрацьпаставіць «народ» і «ўлады». Толькі ён здолеў дайсьці да такога ўзроўню абяцаньняў (памятаеце жывы эфір — Лукашэнка: «Я запушчу прадпрыемствы». Кебіч: «Як?». Лукашэнка: «Запушчу. Я ведаю, як».), абвінавачваньняў (іншамаркі, што купляла апазыцыя, «карупцыя» Шушкевіча), азлобленасьці (калі захварэў Шушкевіч, Лукашэнка з трыбуны парляманту заявіў, што гэта яўная сіммуляцыя) і нават дзеяньняў ("замах" на кандыдата ў Лёзьне — гэй, «тэрарысты», вы дзе? Няўжо «ворганы» ніколі вас ня знойдуць? Хоць, вядома ж, цяжка шукаць чорнага ката ў цёмным пакоі, а тым больш калі яго там няма). Лягічна, што цяпер праціўнікі прэзыдэнта будуць змагацца зь ім самім калі не такімі ж, дык вельмі падобнымі мэтадамі — і ў гэтым ёсьць нейкая вышэйшая справядлівасьць. Скажу нават адну зусім нехрысьціянскую фразу: **мне Лукашэнку не шкада,** — але паспрабую апраўдаць яе іншымі хрысьціянскімі словамі: **за ўсё трэба адказваць.**

## Ці стане палітычны дзеяч дзяржаўным?

Я, дзякуй Богу, не палітык (з усіх выбаршчыкаў мяне, у адрозьненьне ад прэзыдэнта, цікавіць толькі «голас» маёй жонкі) і не рэдактар «советской» газэты, таму спадзяюся, што прапанаваны тут аналіз сягне трошкі далей каўбасна-катэджавай тэматыкі. Адразу заўважу — я ніколі ня быў накіраваны a priori апазыцыйна да цяперашняга кіраўніка дзяржавы. Больш за тое, яшчэ ў жніўні ў мяне быў нейкі момант надзеі на хуткую эвалюцыю поглядаў Лукашэнкі ад саўкова-люмпэнскіх да дзяржаўна-рынкавых. Ня ўсё, аднак, так проста, як хацелася б... Таму цяпер я вымушаны аналізаваць сапраўднага Лукашэнку, а не таго «мудрага рэфарматара», якога нам маляўніча падносяць ягоныя памочнікі.

Пададзены вышэй падзагаловак грунтуецца на вядомым выказваньні Чэрчыля: «палітычны дзеяч дбае пра перамогу на выбарах, а дзяржаўны — пра будучыню». Не падлягае ніякаму сумненьню, што на момант сваёй інагурацыі Лукашэнка быў выразным «палітычным дзеячом», да таго ж зь вельмі вузкай «спэцыялізацыяй». Цяперашняя ягоная пасада патрабуе пэўных якасьцяў, безь якіх мог спакойна жыць дырэктар шклоўскага саўгасу: цярпімасьці, разважлівасьці, мудрасьці. Сьцьвярджаць, што прэзыдэнт мае такія рысы, трэба пагадзіцца, было б залішне аптымістычна.

## Позна чытаць Карнэгі, калі...

Кожны чытач, у адпаведнасьці з узроўнем фантазіі і інтэлігентнасьці, можа прыдумаць сваё дапаўненьне пасьля шматкроп'я. Аналяг вядомы — «позна піць «баржомі», калі ныркі адбітыя». Менавіта такая «сярмяжная праўда жыцьця» прыходзіць у галаву, калі аналізуем паводзіны прэзыдэнта ў Вярхоўны Савеце. Можа, таму, што знаёміцца з творамі Карнэгі Лукашэнка пачаў занадта позна, ужо сфармаваўшы свой наравісты характар, у парляманце ён паводзіць сябе «з дакладнасьцю да наадварот». То абяцае адключыць у будынку цяпло, то заявіць, што 90 працэнтаў дэпутатаў ня будуць пераабраныя, то паабяцае не падпісаць закон аб палітычных партыях, то Пазьняка «ненаўмысна» абразіць...

Такое ўражаньне, нібы Лукашэнка, прыйшоўшы да ўлады, са зьдзіўленьнем убачыў, што ў вышэйшых слаях грамадзтва (журналісты, эканамісты, банкіры, намэнклятура) зусім няма захапленьня ягонаю мужнай постацьцю і ніхто не кідае кветкі пад ногі, як гэта было ў некаторых вёсках. Канечне, хацелася б разагнаць ды перасадзіць усю гэтую хеўру, а заадно ўступіць у Расею. Але ж... Канстытуцыя, законы ды іншыя дробязі вымушаюць ісьці з усёй гэтай кампаніяй на кампрамісы.

Разам з тым няўменьне прыймальна кантактаваць зь істэблішмэнтам дзіўным чынам спалучаецца ў прэзыдэнта з вострым жаданьнем усім падабацца. Таму і гаворыць Лукашэнка тое, што ад яго хочуць пачуць: студэнтам пэдагагічнага інстытуту — пра прыпыненьне тэмпаў беларусізацыі, кіраўнікам мясцовай улады (ужо пасьля «афіцыйнай» часткі прамовы) — аб недапушчэньні ў наступным годзе сьвяткаваньня Аршанскай бітвы, Караулаву — пра жаданьне аб'яднацца з Расеяй, усяму беларускаму народу — пра тое, што зь 1 верасьня цэны павышацца ня будуць. Наагул жа, дзякуючы ягоным доўгім прамовам зь лірычнымі адступленьнямі, Лукашэнку ўжо параўноўваюць з Гарбачовым. Шматслоўе палітыка, як паказвае гісторыя, сьведчыць: **альбо ён няпэўны ў сабе, альбо ня ведае, што рабіць.** Усё гэта красамоўна даводзіць, што Лукашэнка пакуль не перайшоў ад выратавальна-цудатворнага да цяжка-рэфарматарскага іміджу. Ён усё яшчэ сьцьвярджае, што рэформы неяк казачна пройдуць безь зьбядненьня народа...

## Лепшыя прагматыкі — пацукі...

Калі прэзыдэнт вымушаны ўвесь час аглядацца на свой шырокі электарат, варта было б чакаць, што ролю бясстрашнага рэфарматара возьме на сябе хто-небудзь зь ягоных паплечнікаў. Канечне, каманда прэзыдэнта — гэта не «dream team», але шэраг прызначэньняў відавочна можна назваць удалымі. Як шчыра прызнаўся мне ў інтэрвію для «Звязды» Аляксандар Сасноў, «можна хаця б у адным міністэрстве праводзіць нармальную палітыку». На гэта і застаецца спадзявацца — на асобаў, якія, дарэчы, ніколі не былі «ў камандзе» Лукашэнкі — Саснова, Багданкевіча, Сянько...

Але ў астатнім... Калісьці адзін рымскі імпэратар зрабіў сэнатарам каня, каб давесьці ўсім уласную ўсемагутнасьць. Толькі такая гістарычная аналёгія прыгадваецца, калі гавараць пра прызначэньне 23-гадовага Ягора Рыбакова кіраўніком Магілёўскага тэлебачаньня. Бальшыня журналістаў успрынялі гэта як імпэратарскі капрыз і выклік грамадзкай думцы. Дарэчы, пакуль незацьверджанай застаецца пасада міністра інфармацыі — тры месяцы ня могуць знайсьці кандыдатаў. Прапаную ўнікальны спосаб: правесьці сярод старшаклясьнікаў магілёўскіх школаў конкурс на лепшую нататку пра прэзыдэнта. Пераможцу — ў міністры!

Лукашэнка любіць паўтараць, што вакол яго сабраліся «прагматыкі» і гэта красамоўна пацьвярджаецца. «Мы табе дапамаглі — давай цяпер пасады, разьлічвайся», — гавораць яны — і атрымліваюць. Але "прагматыкі" ніколі ня будуць аддана глядзець свайму шэфу ў вочы: як толькі ягоныя пазыцыі пахіснуцца, яны адразу ж апынуцца ў іншых камандах і знойдуць сабе ў апраўданьне тысячы высокамаральных прычын.

## Ці пабудуе Лукашэнка аўтарытарна-адміністрацыйны капіталізм?

Усе мае папярэднія заўвагі, выказаныя ў адрас прэзыдэнта і ягонай каманды, мелі на мэце давесьці адно: цяперашняя ўлада ня мае нейкай адназначнай стратэгічнай лініі разьвіцьця краіны, ня мае ніякай філязофіі Беларусі.

На ўсе спробы журналістаў атрымаць нейкую яснасьць у гэтым накірунку, Лукашэнка адказваў прыкладна так: «Мая мэта — каб народу жылося лепей». Але ж гэта пустыя словы накшталт «мыйце рукі пераж ядой» альбо «лётайце самалётамі «Аэрафлёту». Усе так гаварылі — і Кебіч, і Малафееў, і Сталін — кожны, праўда, гэтае «лепей» бачыў па-свойму. А як Лукашэнка бачыць нашу сьветлую будучыню? У кожнага народу сваё разуменьне шчасьця і дабрабыту: у гвінэйцаў — адно, туркмэнаў — другое, амэрыканцаў — трэцяе, беларуса — чацьвёртае.

Адной з найасноўных стратэгічных памылак прэзыдэнта і ягонай каманды мне бачыцца поўнае ігнараваньне духоўна-культурнага аспэкту. Сабраліся адны «грубыя матэрыялісты» на чале зь Фядутам, які нават горда назваў сябе марксыстам (нібы Маркс быў першым матэрыялістам, нібы не было да яго Дэмакрыта, Сьпінозы, Фэйербаха) і гучыць кожны дзень песенька: «падымем эканоміку, а там і з культурай усё будзе нармальна, і мова сама сабой адродзіцца». І вось ужо Леанід Сініцын у інтэрвію з нагоды ста дзён адзначае як галоўны вынік гэтага перыяду тое, што Беларусь стала на шлях рынку. Аднак, па-першае, заява гэтая зусім не бясспрэчная, а па другое... «на шляху рынку» вось ужо дзесяцігодзьдзямі і без аніякага посьпеху стаяць многія афрыканскія, азіяцкія ды лацінаамэрыканскія краіны.

Там, дзе няма дэмакратыі, пэўнага ўзроўню культуры і вытворчых адносін, выразнай мэты для ўсяго народа, — там ня можа быць нармальнага жыцьця. Чаму ў Баўгарыі, Румыніі ды Чэхіі эканамічныя вынікі такія розныя, хоць рэвалюцыі адбыліся ў адзін час — у 1989 годзе? Адказ, здаецца, відавочны — у Чэхіі значна вышэйшая культура, у Чэхіі ва ўрадзе не было посткамуністаў. Чаму з разьвітых краін Эўропы самыя адсталыя Гішпанія, Грэцыя ды Партугалія? Толькі таму, што там у свой час былі дыктатуры.

У кожным выпадку пасьля войнаў і моцных крызысаў усе дзяржавы паўставалі з руінаў дзякуючы нейкай агульнанацыянальнай ідэі. Для ЗША — гэта дэмакратыя і індывідуалістычная «амэрыканская мара», для Чэхіі, Нарвэгіі, Паўднёвай Карэі — адраджэньне мовы і дзяржавы, для Ірляндыі і Прыбалтыкі — незалежнасьць, для ФРГ 50-х — пакаяньне, для Японіі — нацыянальная ўнікальнасьць, для Брунэя — вернасьць манархіі, для Францыі 60-х — вяртаньне ў ранг вялікіх дзяржаваў. Толькі маючы ідэю народ можа вытрываць эканамічныя цяжкасьці. Рынак — не панацэя, патрэбна яшчэ палітычная воля і яе агульнанацыянальная падтрымка. Пакуль тое, што пачаў будаваць Лукашэнка, арыштоўваючы банкіраў, правяраючы катэджы і ўзмацняючы сваю ўладу, можна назваць толькі «намэнклятурна-аўтарытарным капіталізмам». Будзе страшна, калі на Беларусі запануе, як нацыянальная, шарыкаўская ідэя «узяць усё і падзяліць». У такім выпадку хай ужо лепш ня будзе ніякай ідэі. Жах, але пры пэўных умовах сытуацыя па стварэньні розных камітэтаў і «Очищений» можа выйсьці нават з-пад кантролю самога прэзыдэнта.

Зрэшты, усё ў ягоных сілах. Цяпер Лукашэнка на нейкім пераходным этапе: ад сваіх «саўковых» перадвыбарчых міфаў ён пакутліва адыходзіць, але ягоная постсаўгасная натура яшчэ не гатовая прыняць эўрапэйскую філязофію дзяржаўнасьці і дэмакратыі. Альбо ён зразумее неабходнасьць гэтага, альбо праз год-паўтара стане ахвяраю больш нахабнага, чым ёсьць сам, папуліста — з трагічнымі для Беларусі вынікамі.

# Трэць польскіх афіцэраў лічаць Беларусь патэнцыйным агрэсарам

**Уплывовы варшаўскі тыднёвік *Polityka* на мінулым тыдні надрукаваў вынікі апытаньня, праведзенага Вайсковым Інстытутам Сацыялягічных Дасьледаваньняў сярод прафэсыйных вайскоўцаў.**

На пытаньне, хто сёньня пагражае Польшчы, 75% адказвае — Расея. Па 51% называюць Украіну і Нямеччыну, 30% — Беларусь, 20% — Летуву. 9% лічаць, што Польшчы пагражаюць ЗША, 8% — Чэхія, 6% — Францыя і па 5% — Славаччына і Швэцыя.

Апытаньне было зробленае ў лютым гэтага году. А ў студзені 1993 г. сытуацыя выглядала так: 83% польскіх афіцэраў лічылі, што Польшчы пагражае Ўкраіна, 76% — Нямеччына, 56% — Расея, 33% — Беларусь, 24% — Летува, 12% — Чэхаславаччына, 10% — ЗША, 6% — Францыя і 5% — Швэцыя.

А.К.

# Голубева цікавіць, што хацеў сказаць Ландзбэргіс

**Учора, 31 кастрычніка, МЗС Беларусі атрымала запыт дэпутата Валяньціна Голубева.**

Старшыня парляманцкай камісіі па міжнародных справах просіць зьнешнепалітычнае ведамства высьветліць у Міністэрстве замежных справаў Летувы наступнае: што меў на ўвазе В.Ландзбэргіс, калі заклікаў камісію Рады Эўропы зьвярнуць увагу на парушэньне ў Беларусі правоў нацыянальных меншасьцяў, у прыватнасьці — летувіскай.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

# Шапашнікаву і мафіі перашкаджаюць межы

Як высьвятляецца, маршал авіяцыі Яўген Шапашнікаў не пайшоў на дно: пасьля ўсяляких прыгодаў ён стаў, як сказалі б у былым СССР, гандляром сьмерцю — прапіхвае зброю на замежны рынак.

Надоечы чуў яго па радыё «Свабода», дзе абмяркоўвалі гэтую тэму. На пытаньне журналіста, ці каапэруецца Расея ў выпуску зброі зь іншымі краінамі былога СССР, рэйхсмаршал выказаў асаблівую задаволенасьць удзелам Беларусі ў гэтай справе. Аднак Шапашнікаву надта ж нездаволены, што іншыя краіны вельмі непрыхільна глядзяць на такую каапэрацыю: «Границы и суверенитет придумали щелкоперы-политики», «суверенитета не существует, это все иллюзии» і г.д. і да т.п.

Літаральна праз дзень на той жа радыёстанцыі абмяркоўвалі праблему расейскай мафіі ды злачыннага сьвету. Нехта, знаўца прадмету, апавядаў, якая гэтая мафія бязьлітасная, крыважэрная і лютая, як цьвёрда трымаецца няпісанага зладзейскага кодэксу гонару.

На пытаньне, ці мае расейская мафія хоць якія станоўчыя рысы, было сказана, што расейская мафія глыбока патрыятычная, моцна перажывае за тое, што адбылося з Расеяй (а што, уласна кажучы, зь ёю адбылося?), што ёй абрыд ейны подлы занятак і яна хоча легальнай дзейнасьці. Дзіва што!

Было пацьверджана, што расейская мафія зрабіла зь Беларусі наркакалідор, праз які гоніць «белую сьмерць» на Захад. Бач ты, расейскай мафіі, гэтаксама як і авіямаршалу, моцна перашкаджаюць межы.

Словам, Беларусь ціснуць з двух бакоў. І афіцыйны маскоўскі рэжым, і злачынны расейскі сьвет люта ненавідзяць нашую сувэрэннасьць і кволую незалежнасьць. Тымчасам у Беларусі, выконваючы заданьне сваіх гаспадароў, тутэйшыя пятакалёнікі ўзьнялі лямант вакол перасьцярогі Пазьняка пра драпежныя памкненьні Расеі ў дачыненьнях да суседзяў ды абвінавачваюць лідара БНФ у антырасейскіх настроях.

Мне ж здаецца, рэчы якраз наадварот выглядаюць.

К.К.

# Вярнуўшыся зь Менску, Аляхоўскі падаў у адстаўку

**Міністар замежных справаў Польшчы Анджэй Аляхоўскі 27 кастрычніка падаў у адстаўку.**

Напярэдадні, як вядома, ён знаходзіўся ў нашай краіне з аднадзённым афіцыйным візытам, падчас якога сустрэўся з прэзыдэнтам Беларусі, прэм'ер-міністрам і міністрам замежных справаў.

Сп. Аляхоўскі вярнуўся ў Варшаву якраз як там распачаўся буйны палітычны скандал, выкліканы заяваю міністра юстыцыі Ул.Цімашэвіча. Той абвінаваціў 57 высокапастаўленых урадоўцаў у парушэньні закону, накіраванага супраць карупцыі. Гэты закон, прыняты яшчэ ў 1981 г., забараняе дзяржаўным чыноўнікам займаць хоць якія пасады ў фірмах, кампаніях і г.д. Міністар Аляхоўскі, між тым, уваходзіў у праўленьне адной з такіх структураў і атрымліваў там грошы. Праз гэта ён і трапіў у «чорны сьпіс» міністра юстыцыі. У адказ на абвінавачваньне Анджэй Аляхоўскі як бы ў знак пратэсту заявіў аб сваёй адстаўцы з пасады міністра. Ён сказаў, што ўсе грошы, якія атрымліваў, зарабляў сумленна і ня лічыць сябе вінаватым.

Заява міністра юстыцыі і адстаўка Аляхоўскага сталі тэмаю нумар адзін у польскай прэсе, пра гэта паведамілі таксама ўсе буйныя інфармацыйныя агентвы. Але ж усіх, бадай, пераплюнула менская газэта «Советская Белоруссия». У нумары за 29 кастрычніка яна апублікавала ажно пяць абзацаў пра тое, як сп. Аляхоўскі «удовлетворен итогами своих переговоров в Минске», але ні адным радком не паведаміла пра адстаўку польскага міністра. Зрэшты, гэта вельмі характэрна для нашай афіцыйнай прэсы, на старонках якой можаш знайсьці што толькі хочаш — але ж не навіны.

Пятро ПАНКРАТОВІЧ

**На здымку: Разьвітваючыся ўвечары 26 кастрычніка зь міністрам замежных справаў Беларусі Уладзімерам Сянько, Анджэй Аляхоўскі ня мог нават здагадвацца, што назаўтра ў Варшаве ён стане сьведкам і першай ахвярай буйнога скандалу.**

# Палякі зацягнуцца нашай «Прымай»

**У Беластоку адбылася 3-дзённая гандлёва-прамысловая выстава прадукцыі прадпрыемстваў Горадні.**

На ейным адкрыцьці гарадзенскі мэр Г.Крупенка адзначыў, што пашыраюцца кантакты ня толькі паміж дзьвюма краінамі, але і паміж нашымі рэгіёнамі і гарадамі. У Беластоку ўжо год існуе беларускае консульства, а польскі консул нядаўна прыступіў да працы ў Горадні. Беластоцкая публіка і журналісты зь цікавасьцю адзначылі, што мэр выступаў на беларускай мове, прычым без паперкі, што ўвогуле неўласьціва для беларускіх чыноўнікаў.

Дарэчы, палякі вырашылі закупіць цыгарэты «Прыма», «Астра» і «Космас» гарадзенскай тытунёвай фабрыкі. Аднак, каб яны лепей прадаваліся ў Польшчы, цыгарэтныя пачкі будуць друкавацца ў Беластоку.

С.М.

